# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 38 (1584) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 21 ВЕРАСНЯ 1986 г. ЦАНА 10 зл.



На ўзгорку ва ўрочышчы Кабыліна Галава за вёскай Шашылы 31 жніўня 1986 года быў устаноўлены памятны знак у гонар партызан са спецгрупы „Дальнія“. Кветкі ля памятнай дошкі ўскладае Зінаіда Анацік — жонка аднаго з членаў гэтай групы, палкоўніка ў адстаўцы Яна Анаціка.

## ЗАМАЦАВАЦЬ ПАМЯЦЬ

Было гэта напярэдадні чарговай, ужо 47-ай гадавіны развязкі нямецкімі фашыстамі другой сусветнай вайны, значыць, 31 жніўня 1986 года. „Ніву“ запрасілі прысутнічаць ва ўрачыстасцях у гміне Боцькі. Запрашаў грамадскі камітэт па ўстанаўленню памятнага знака ў гонар партызан з асобай групы парашутыстаў, перакінутых з Масквы ў раён Бельска і Сямяціч. Адначасова прадбачвалася ўрачыстае адкрыццё вясковага Дома культуры ў вёсцы Нурэц, што таксама ў Боцькаўскай гміне.

Чырвона-белыя сцяжкі паказвалі, што трэба павярнуць за вёску Шашылы, ва ўрочышча з дзівоснай назвай Кабыліна Галава. Цяжка было прабіцца цераз шматтысячны натоўп людзей і машын. На ўзгорку, які ўзвышаецца над цэлай гэтай Кабылінай Галавою, пастроіўся ўжо парадны ваенны аркестр, чакаў у гатоўнасці атрад маладых воінаў.

На гэтым узгорку канчалася дарога, вызначаная сцяжкамі. Вяла яна да скромнага помніка, устаноўленага тут, каб увекавечыць памяць колішніх партызан. За звычайнай жалезнай агароджай паклалі на цэментавым падмурку звычайны, хаця і даволі вялікі палявы валун, а на ім замацавалі дошку з надпісам:

**„На гэтым узгорку ў гадах 1943—1944 мела сваё месцазнаходжанне група парашутыстаў „Дальнія“, якія змагаліся з нямецкім акупантам: капітан Мікалай Хмялеўцаў, старшы лейтэнант Мікалай Нячаеў, лейтэнант Дзмітрый Новікаў, тэлеграфіст Уладзімір Шытаў, кур'ер Ян Анацік. Гонар ім і слава. Грамадскасць гміны Боцькі. 1986.VIII.31.“**

Заводжу гутарку з тутэйшымі старажыламі, з мясцовымі сялянамі.

— Вось тут была іх партызанская зямлянка, — паказваюць мне схіл узгорка, з якога адкрываецца шырокі кругагляд.

— Раней тут, цераз гэтую сенажаць, немагчыма было ні праехаць, ні прайсці. Бывала, як станеш, дык перад табою вось так, — паказвае на вышыні сваіх грудзей, — выдымаецца дрыгва. Не дай Бог, каб праваліцца дык паляцеў бы з галавою.

— Партызаны ўмелі падабраць сабе зручнае месца на стаянку, — адзначае яшчэ адзін тутэйшы старажыл.

— Я іх памятаю, партызан! — з гордасцю пахваліўся адзін з

(Працяг на стар. [illegible])

## РЭСПУБЛІКА

Мясцовасць Б. Амфітэатр, у якім праводзяцца ўсе большыя гмінныя і дзяржаўныя ўрачыстасці, а летам дыскатэкі. Прыгожы парк навокал. Дыскатэка. Мадэрн Талкін варочае некаторым у вантробах. Раптам дыск-джакей крычыць:

— „Металы“ ёсць?

— Ёёёсць!!!

— А выйдуць?

— Выыыйдуць!

Страшэнны ломат. Дыскатэкавыя паненкі ўцякаюць з дошак, за імі іх кавалеры. Паклоннікі Сатаны, „чорныя металісты“, цяпер шалеюць. Перажываюць у трансе. Гэта музыка так уздзейнічае на іх. І не толькі музыка.

— Скажы ты шчыра, скажы. Гэта не так зноў чароўна — мець трохі мутнай эйфарыі, а пасля рыгаць ці нават выцягнуць капыты. Хіба ж не „на злосць“? — звяртаюся да М.

— Валік памёр на злосць.

— Сабе! Меў даволі „старых“?

— Бярэш гэта так плытка Старыя чапляліся невядома чаго. Належыцца нам крыху свабоды.

— Свабоды? Аж замнога. Не адзін у яго гадах...

— Паўтараецеся. Бацькі ў яго гадах біліся, будавалі. А пасля

(Працяг на стар. 5)

## ВЯЛІКІ ЧЫТАЛЬНІЦКІ КОНКУРС



Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства і рэдакцыя „Нівы“ аб'яўляюць вялікі чытальніцкі конкурс для ўсіх ахвотных ад малога да старога. Каб прыняць удзел у конкурсе, трэба прачытаць найменш адзін вялікі літаратурны твор (раман, аповесць, паэму і інш.), або некалькі малых твораў (апавяданняў, вершаў і інш.) беларускіх аўтараў. Затым неабходна пісьмова адказаць на два пытанні:

1) Якія творы беларускіх аўтараў вы чыталі? (Падаць аўтараў і загалоўкі твораў).

2) Што вам найбольш падабалася ў прачытаных творах і чаму?

**Пісьмовыя адказы просім прысылаць на адрас ГП БГКТ у Беластоку, вул. Варшаўская 11, або на адрас рэдакцыі „Нівы“: 15-950 Беласток, вул. Весялоўскага 1 — да канца лютага 1987 года. Адначасова просім даслаць адказы на анкету, якую змяшчаем ніжэй.**

**Анкета ўдзельніка конкурсу**

1. Імя і прозвішча . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

2. Год нараджэння . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

3. Прафесія . . . . . . . . . . .

і месца працы (вучобы) . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

4. Адкуль узялі прачытаныя творы: свае кніжкі, кніжкі з бібліятэкі, са школы, пазычаныя ў знаёмых, прачыталі ў „Беларускім календары“, „Ніве“, іншых . . . . . . . . . . . . . . . . (адпаведнае падкрэсліць).

З прысланых адказаў камісія ў некалькіасабовым складзе спецыялістаў па беларускай літаратуры вылучыць удзельнікаў другога этапа конкурсу. Гэтыя асобы будуць запрошаны на 5 красавіка 1987 года да ўдзелу ў далейшым ходзе конкурсу.

Пераможцы конкурсу атрымаюць цікавыя ўзнагароды. Сярод усіх удзельнікаў разлясаваны будуць спецыяльныя падарункі (выданні БГКТ).

Запрашаем!

**Арганізатары**




## АБ ВАНДАЛАХ

З вынікамі дзейнасці вандалаў сустракаецца кожны з нас. Дзейнічаюць яны не толькі на стадыёнах, але і ва ўсіх закутках нашага немалога краю. Вандалізм перастаў быць дамінантай гарадоў. Даўно перакрочыў іх межы, расшыраючыся на вёскі. У чым праяўляецца вандалізм? У бяздумным, пазбаўленым усякага сэнсу нішчэнні, ламанні, рэзанні, рванні, разбіванні ўсяго, што толькі можна знішчыць, зламаць, парэзаць, парваць і разбіць. Не так даўно я ехаў з Варшавы прыгарадным цягніком у Новы Двор. Цягнікова склад быў цалкам новы. Складаўся з вагонаў, якія блішчэлі свежай фарбай. Які́м жа было маё здзіўленне, калі, увайшоўшы ў сярэдзіну, убачыў я парэзаныя або ўвогуле вырваныя сядзенні, павырываныя планкі з багажных полак, пабітае шкло, за якімі знаходзіліся рысункі з прыроднымі пейзажамі. Нават лiналеум на падлозе быў у многіх месцах парэзаны і падзерты. Яшчэ больш жахлівую карціну ўбачыў я ў туалеце. Усё, што можна было там разбіць і зламаць, пачынаючы ад ракавіны, педаляў і клямак, было разбіта і паламана. Усе вялікія гарады Польшчы выдаткоўваюць мільёны злотых на тэлефонныя будкі, якія для вандалаў з'яўляюцца улюбёнымі аб'ектамі злачыннай гульні. Калісьці гарадскія ўлады стараліся, каб у кожнай з такіх будак быў не толькі спраўны тэлефонны апарат, але і тэлефонная кніжка. Сёння практычна нідзе такіх кніжак няма, бо, як каршуны, накідваюцца на іх вандалы, нішчаць, рвуць, брудзяць, крадуць. Не памаглі і ланцугі, якімі стараліся ўлады забяспечыць гэтыя кніжкі. Злая воля хуліганаў-вандалаў намнога тут мацнейшая за тых, хто стараецца запэўніць нармальнае функцыянаванне тэлефонных будак. У саміх апаратах абслугоўваючы іх персанал замест манет знаходзіць гузікі, бляшкі, чыгуначныя білеты і рознае барахло, якое толькі ўдаецца вандалам упіхнуць у, здавалася б, як жа вузкую шчыліну тэлефоннага апарата. На спомненых ужо стадыёнах вандалы пакідаюць не толькі тысячы бутэлек ад гарэлкі і піва, якія найахвотней разбіваюць на дробны мак, але і тысячы розных прадметаў, якія не маюць нічога супольнага ні са спортам, ні з культурай, ні з так званым здаровым розумам. Калі, не дай Бог, праігрывае каманда, якую яны любяць, тады з азвярэлай нянавісцю накідаюцца на бедныя лаўкі (нічога іншага на трыбуне не знаходзяць), ломяць іх бязлітасна.

Цягнікі, тэлефонныя будкі і стадыёны — гэта толькі нешматлікія прыклады аб'ектаў, у якіх вандалы ахвотна развіваюць сваю „творчасць". Дзейнічаюць яны ўсюды з вялікай энергіяй і паслядоўнасцю. Цікава, што займаюцца гэтым боўдзілы, якія пермаментна пазбягаюць усялякай працы, усялякіх карысных намаганняў, такіх, якія маглі б служыць карыснай справе. Лодыры і гультаі ў штодзённым жыцці знаходзяць у сабе страшэнную энергію, калі толькі ёсць магчымасць знішчаць.

Большасць чытачоў „Нівы" можа сказаць, што на тэрыторыі, дзе яны жывуць, няма ні стадыёнаў, ні тэлефонных будак і таму праблема, якую ўзнімаю, іх не датычыць. Так, аднак, гаварыць нельга. На ўсходняй Бела-

**(Працяг на стар. 4)**




## У БЮРО ЦК КАМПАРТЫІ БЕЛАРУСІ

Бюро ЦК КПБ на чарговым пасяджэнні разгледзела пытанне аб арганізацыі палітычнай і эканамічнай адукацыі працоўных у 1986/87 навучальным годзе. Галоўнай задачай партыйных камітэтаў і арганізацый у новым навучальным годзе з'яўляецца забеспячэнне паглыбленага вывучэння рашэнняў XXVII з'езда КПСС.

## ПАДТРЫМЛІВАЕ МІКРАКЛІМАТ

Вынікам шматгадовага супрацоўніцтва Варшаўскага цэнтральнага навукова-даследчага інстытута ацяпляльнага абсталявання „Інсталь" з Мінскім інстытутам санітарнай тэхнікі Міністэрства будматэрыялаў СССР стаў вынайдзены ндзвычайны канвектар. Гэта разнавіднасць радыятара з вентылятарам унутры. Аснашчаны аўтаматычнай рэгуляцыяй паддзімання цёплага паветра, ён прыдатны да такіх памяшканняў, дзе патрэбнасць у цяпле з'яўляецца перыядычнай. У іх дастаткова падтрымліваць так званую „дзяжурную тэмпературу", напрыклад, для папярэджання залішняй вільготнасці. Урачэбныя кабінеты, кіна- і канферэнц-залы з'яўляюцца ідэальнымі месцамі для прымянення канвектараў. І, зразумела, школы. Тут, на думку спецыялістаў, мікраклімат павінен быць асабліва спрыяльны. Гэта канструктыўнае рашэнне распрацавана і ўдасканалена ў адпаведнасці з рэалізацыяй абедзвюма краінамі праграмы эканомнага выкарыстання цеплавой энергіі.

Сучаснае абсталяванне такога тыпу, якое мае адначасова радыятар і вентылятар, з'яўляецца, з эканамічнага пункту гледжання, вельмі выгадным.

## ДРУГОЕ НАРАДЖЭННЕ

Другое нараджэнне перажывае Дняпроўска-Бугскі канал — важнейшая транспартная магістраль Палесся. Тут закончаны работы па рэканструкцыі фарватэра на 105-м кіламетры суднавага ходу, дзе круты паварот і вузкая гарлавіна служылі перашкодай для грузавых суднаў, якія замаруджвалі скорасць руху.

Ужо цяпер па шлюзавой сістэме перавозіцца грузаў у дваццаць разоў больш, чым у пасляваенныя гады. Асабліва напружаным стаў рух флоту пасля ўводу ў дзеянне мікашэвіцкага вытворчага аб'яднання „Граніт" і яго порта. У сувязі з гэтым паявілася настойлівая неабходнасць расшырыць і паглыбіць рэчышча воднай магістралі. За апошнія гады ўжо рэканструявана амаль 150 кіламетраў суднавага ходу. Канал з 22 метраў расшыран да 40, на метр глыбейшым стаў фарватэр.

## ЭВМ ПАМАГАЕ МЕДЫКАМ

Поспех лячэння хворых непасрэдна залежыць ад узроўню арганізацыі медыцынскага абслугоўвання насельніцтва. Аднак, як аператыўна высветліць, ці адпавядае ён сучасным патрабаванням, калі размова ідзе не аб адной, а аб сотнях паліклінік рэспублікі?!

Вырашыць задачу памагае аўтаматызаваная сістэма кіравання „Ахова здароўя", якая створана на падставе дзвюх арыгінальных вынаходак у рэспубліканскім інфармацыйна-вылічальным цэнтры Міністэрства аховы здароўя БССР. Яна дазваляе кожны тыдзень аналізаваць, колькі дзён затрачваецца ў той ці іншай паліклініцы на вылячэнне кожнай з дзесяткаў улічваемых хвароб. Прымаюцца да ўвагі і ўзроставыя асаблівасці пацыентаў. Калі атрыманыя лічбы высокія, АСК „б'е трывогу": арганізацыя абслугоўвання насельніцтва ў той ці іншай медустанове патрабуе паляпшэння.

Сістэма кіравання такога роду пакуль адзіная ў СССР.

## СПОРТ

Першыя ўсесаюзныя спаборніцтвы па цяжкай атлетыцы выхаванцаў школ вышэйшага спартыўнага майстэрства адбыліся ў Фергане. За прызавыя месцы змагаліся 15 каманд з ШВСМ сямі рэспублік, а таксама Масквы. У тройку прызёраў увайшлі маладыя штангісты Беларусі, Казахстана і Арменіі. Турнір праводзіўся па новых правілах, рэкамендаваных Сусветнай федэрацыяй цяжкай атлетыкі.




## ЗЛАВЕСНЫ „СКАЛЬПЕЛЬ" ПЕНТАГОНА

Узброены напад ЗША на маленькую Грэнаду, на Лівію, неаб'яўленыя войны супраць Нікарагуа, Афганістана і іншых краін — наглядное праяўленне дактрыны „неаглабалізму" цяперашняй адміністрацыі Рэйгана.

Немалая роля ў правядзенні гэтай палітыкі адведзена войскам спецыяльнага прызначэння ЗША, якія з'яўляюцца, паводле слоў часопіса „Тайм", „скальпелем Пентагона".

Асабліва вызначаліся яны ў В'етнаме. Пад націскам дэмакратычных сіл Злучаныя Штаты былі вымушаны прыняць меры па іх скарачэнню адразу ж пасля заканчэння ганебнай для Амерыкі вайны. Аднак пры прэзідэнцэ Рэйгане войскі спецпрызначэння зноў былі пастаўлены на пярэдні план. Іх колькасць павялічылася на 30 працэнтаў і складае цяпер 43 тысячы чалавек. Імклівa растуць і асігнаванні на дыверсійна-тэрарыстычныя фарміраванні: з 200 мільёнаў павялічыліся да 1,2 мільярда долараў. У 1987 годзе прыбаўка на іх утрыманне складзе яшчэ паўмільярда долараў.

Будучых інтэрвентаў (гэта перш за ўсё „зялёныя берэты") трэніруюць у пустынях і за палярным кругам, у джунглях і ў балоцістай мясцовасці. Вучаць забіваць, закладваць атамныя міны, узрываць партовыя збудаванні, масты і радыёлакацыйныя цэнтры. Ім прывіваюць навыкі вядзення шпіянажу і падрыўной прапаганды.

Ад „зялёных берэтаў" мала чым адрозніваюцца так званыя рэйджэры, або „чорныя берэты". Наша хобі, гаворыць камандзір рэйджэраў В.Б. Тэйлар, — „забіваць людзей і ўзрываць аб'екты..."

Аб дзейнасці спецвойск ЗША звесткі ў друк пранікаюць рэдка. У прыватнасці, існаванне так званай „групы дэльта", прызначанай для выканання заданняў выключнай важнасці, Пентагон нават не хоча афіцыяльна прызнаваць.

Але шыла ў мяшку не ўтоіш. Нядаўна яе агенты былі абвінавачаны ў незаконным абагачэнні. Пры гэтым высветлілася, што баевікі групы па ўласнай ініцыятыве пранікалі ў тыя сферы, якія ў ЗША адносяцца да кампетэнцыі ФБР і ЦРУ.

Для больш аператыўнага выкарыстання „дэльты" Пентагон вырашыў перакінуць яе з форта Брэга (штат Паўночная Караліна) на базу НАТО у Сiганелі на востраве Сіцылія.

У цяні знаходзяцца спецфарміраванні амерыканскіх ваенна-марскіх сіл. Падводных дыверсантаў вучаць разбураць збудаванні гаваней, масты, узрываць караблі. Сваю „практыку" яны каля года праходзілі ля берагоў Нікарагуа, дзе мініравалі акваторыю портаў і наносілі агнявыя ўдары на катэрах па важных збудаваннях, узрываючы нафтасховішчы і іншыя аб'екты.

Спецчасці паветраных сіл ЗША маюць задачу даставіць „зялёныя" і „чорныя берэты" на месцы, якія даўно ўжо вызначаны Пентагонам.

Крылатыя дыверсанты размешчаны цяпер у Паўночнай Фларыдзе (ЗША), на Філіпінах і на ваенна-паветранай базе Рамштэйн у Заходняй Германіі.

У чытача можа ўзнікнуць пытанне, чаму адміністрацыя Рэйгана фарсіруе разгортванне войск спецыяльнага прызначэння, колькасць якіх павялічыцца да 1992 года ўдвая? Уся справа ў тым, што на правядзенне дыверсійных аперацый не патрэбна прасіць згоды кангрэса. Гэтым „скальпелем" арудуе Пентагон, у якога няма разыходжанняў з адміністрацыяй ЗША.

**А.С.**

# ЗАМАЦАВАЦЬ ПАМЯЦЬ

(Працяг са стар. 1)

сялян. — І не толькі аднаго Анаціка, які даволі часта наведваўся да нас ужо пасля вайны, нават тады, калі павысілі яго ў палкоўнікі. Я быў тады яшчэ падлеткам, але памятаю.

Доўга можна было б расказваць аб баявых дзеяннях партызанскай групы асобага прызначэння „Дальнія". На шчасце, няма такой патрэбы. У свой час на старонках „Нівы" надрукавалі мы ўспаміны палкоўніка Яна Анаціка, даступныя яны і на польскай мове ў кніжным выданні. Тут толькі неабходна адзначыць, што члены гэтай групы перш за ўсё вялі разведачную дзейнасць і мелі абавязак пазбягаць сутычак з ворагам. На жаль, і сярод іх не абышлося без страт. З рук гітлераўскіх карнікаў загінулі старшы лейтэнант Мікалай Нячаеў і лейтэнант Дзмітрый Новікаў. Жывуць яшчэ Ян Анацік — у Беластоку і Уладзімір Шытаў — недзе ў Савецкім Саюзе. Ні адзін, ні другі, на жаль, не прысутнічалі на ўрачыстасці за вёскай Шашылы. Анаціка звaліла хвароба і ён вымушаны быў адправіцца ў бальніцу, а да Шытава, здаецца, запозна дайшло запрашэнне.

Урачыстасць на ўзгорку ва ўрочышчы Кабыліна Галава ператварылася ў антываенны мітынг, у якім удзельнічалі прадстаўнікі грамадскасці гміны Боцькі, Бранск, Бельск, Орля, Кляшчэлі, Мілейчыцы, Вышкі і Нурэц-станцыя. Прыехалі прадстаўнікі ваяводскіх партыйных і адміністрацыйных улад, сярод якіх быў таксама старшыня Ваяводскай рады ПРОН, праф. **Пётр Борань.** Выказаў ён падтрымку мірным ініцыятывам Савецкага Саюза, асабліва прадаўжэнню да канца гэтага года аднабаковага ўстрымання ад ядзерных выбухаў. Галасы супраць гонкі ўзбраення, якую намагаецца накінуць свету цяперашняя рэйганаўская адміністрацыя, паўтараліся ў кожным выступленні на гэтым узгорку за вёскай Шашылы. Урачыстасць закончылася пераклічкай загінуўшых і ўскладаннем вянкоў ля памятнай пліты з прозвішчамі былых партызан.


З дакладам выступае I сакратар гміннага камітэта партыі ў Боцьках тав. Казімір Асмольскі.


Урачыстасць за вёскай Шашылы ператварылася ў антываенны мітынг.

З урочышча Кабыліна Галава пераехалі мы ў вёску **Нурэц,** каб быць сведкамі адкрыцця прасторнага і прыгожага **вясковага Дома культуры,** пабудаванага галоўным чынам дзякуючы грамадскаму пачыну гэтай гаспадарнай вёскі. У Нурцы апрацоўкай зямлі займаецца нейкіх 60 сялян. Ад 1972 года стараліся яны пра пабудову нейкага будынка для сваіх грамадскіх вясковых патрэб. Тады менавіта нурчане заваявалі першае месца ў конкурсе „Беластоцкая вёска гаспадарная і культурная". Атрыманую ўзнагароду рашылі яны выкарыстаць на пабудову свайго Дома культуры. Чакаць давялося доўга, бо іх мала, а грошай спатрэбілася многа. Аднак дачакаліся. Начальнік Боцькаўскай гміны **Анна Нікіцюк,** калі выступала з нагоды адкрыцця вясковага Дома культуры ў Нурцы, адзначыла, што няма патрэбы называць менш і больш актыўных сялян, якія ўдзельнічалі ў гэтым грамадскім пачыне, бо ўсе жыхары вёскі Нурэц шчыра і з поўнай аддачай сваіх сіл і сродкаў папрацавалі, каб калісьці пачатую грамадскую справу давесці да паспяховага заканчэння. Быў нават час, што яны супольна апрацоўвалі дзесяць га дзяржаўнага фонду зямлі, а даход з гэтай працы адводзілі на рахунак пабудовы свайго цэнтра культуры. Першыя яго наведвальнікі змаглі палюбавацца скромнай выстаўкай народнага мастацтва тутэйшых сялян.

Урачыстасці ў Боцькаўскай гміне закончыліся сяброўскай сустрэчай у школе ў вёсцы Нурэц. Тут змаглі мы пабачыць даволі багаты **Пакой нацыянальнай памяці,** дзе шмат цікавага можна даведацца не толькі пра партызан з групы „Дальнія", але таксама і пра многіх іншых людзей, якія вылучыліся сваім жыццём і подзвігамі на гэтай зямлі. Вось, для прыкладу, настаўнікі **Станіслаў Ажахоўскі** і **Генрык Рудзь,** якіх 15 верасня 1939 года па-варварску застрэлілі гітлераўскія салдаты.

Тут, у гэтым Пакоі нацыянальнай памяці, былі ўручаны многім удзельнікам урачыстасці даўно заслужаныя імі ўзнагароды. **Кавалерскі Крыж Ордэна Адраджэння Польшчы** атрымаў **Сяргей Почук** са **Снежак.** Андрэй Стасевіч, Дзямян Леўчук і Аляксей Хількевіч атрымалі **медалі „За ўдзел у абароннай вайне 1939 года"**, а **медалі „За ўдзел у барацьбе за абарону народнай улады"** былі ўручаны: Хведару Шымчуку, Рыгору Дзмітруку, Аляксандру Ваўчуку, Андрэю Вашчуку і Яну Кочупу. Іх усіх мы сардэчна віншуем з узнагародамі. На замацаванне памяці аб жывых і загінуўшых барацьбітах за нашу лепшую долю ніколі не позна.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара


Гэты прыгожы і прасторны Дом культуры жыхары вёскі Нурэц пабудавалі грамадскім пачынам.

(Працяг са стар. 2)

# АБ ВАНДАЛАХ

сточчыне таксама курсуюць цягнікі, і вынікі дзейнасці ў іх вандалаў кідаюцца ў вочы. Апрача гэтага, нямала ёсць іншых аб'ектаў, якія з'яўляюцца любімай арэнай дзейнасці вандалаў.

Нядаўна я праязджаў праз вёску Подваркі, якая невядома чаму называецца цяпер Фальваркамі. У гэтай вёсцы ёсць два аўтобусныя паўстанкі. Адзін — для тых аўтобусаў, якія едуць у Беласток, другі — для тых, што з Беластока. Адлеглыя яны ад сябе прыблізна на сто пяцьдзесят метраў. Не ўяўляеце сабе, што вандалы зрабілі з паўстанкавай будкай для пасажыраў, якія сядаюць на аўтобусы з Беластока. Увесь шыферны дах сарваны, дзве трэція сцен, якія складаліся з тоўстых шкляных кафляў, разбіты ў дробны мак. Адна трэцяя сцен, якія яшчэ стаяць, выглядае, як нейкі гістарычны мур, які пратрываў стагоддзі і адбіў сотні атак варожых навалаў. Як не дзіўна, але другая будка амаль не кранута. Няма, аднак, сумненняў, што і да яе дойдзе грозная ватага вандалаў. Не думаю, каб зрабілі гэта ў Подварках вандалы з Варшавы ці з Беластока. Напэўна будку знішчылі мясцовыя вандалы з Подварак ці навакольных вёсак і няма сумненняў, што дасягнутае іх не задавальняе і іх знішчальны інстынкт дакоціцца і да другога паўстанка. Зрэшты, ці толькі да паўстанка? Вандалізм — гэта злая хваля, якая патрабуе неабмежаванага поля дзеяння. Дарагія чытачы, вандалы не прыляцелі да нас з Месяца. Яны — гэта нашы дзеці, нашы браты, нашы суседзі, нашы знаёмыя. Яны — частка нашага грамадства. Давайце будзем супольна думаць аб тым, як гэтую аграмадную нявыкарыстаную энергію скіраваць ва ўласцівае рэчышча, у рэчышча будавання, а не знішчэння.

**Алесь Барскі**

# Новая школа

Новы навучальны год распачалі ў новай школе вучні з Грабаўца ў Дубіцкай гміне. Цяпер тут дастаткова памяшканняў на класы і бібліятэку. Раней дзеці вучыліся ў прыватных памяшканнях.

У новым будынку светлыя і прасторныя класы. Усё свежа памалявана: вокны, дзверы і падлога. Школу накрылі бляхай. Жыхары Грабаўца пры пабудове школы выканалі грамадскі пачын на суму 1 мільён 200 тысяч злотых. Найбольш папрацавалі: солтыс Рыгор Рута, Мікалай Бартнічук, Уладзімір Іванюк, Рыгор [illegible]рэзняк, Рышард Масілевіч (дырэктар школы) і іншыя. (яц)

## ЧЫТАЙЦЕ БЕЛАРУСКУЮ ПРЭСУ!

**Ужо можна падпісацца на беларускія савецкія газеты і часопісы на 1987 год.**

**„Беларусь“** — каляровы, багата ілюстраваны месячнік, цана гадавой падпіскі — 264 зл.

**„Бярозка“** — каляровы ілюстраваны месячнік беларускіх школьнікаў — 324 зл.

**„Вожык“** — часопіс сатыры і гумару, выходзіць два разы ў месяц — 336 зл.

**„Вясёлка“** — каляровы, багата ілюстраваны месячнік для дзяцей малодшага школьнага ўзросту — 168 зл.

**„Звязда“** — штодзённая газета — 600 зл.

**„Літаратура і мастацтва“** — тыднёвік, прысвечаны пытанням літаратуры, мастацтва, грамадскім справам — 520 зл.

**„Маладосць“** — літаратурна-грамадскі месячнік — 1920 зл.

**„Мастацтва Беларусі“** — месячнік, прысвечаны розным галінам беларускага мастацтва, яго гісторыі, праблемам — 1440 зл.

**„Народная асвета“** — месячнік, прысвечаны розным пытанням методыкі навучання, працы ў школе — 852 зл.

**„Настаўніцкая газета“** — выходзіць два разы ў тыдзень, прысвечаная справам школьніцтва — 416 зл.

**„Піянер Беларусі“** — тыднёвік беларускіх піянераў (гарцэраў) — 208 зл.

**„Полымя“** — штомесячны літаратурна-грамадскі часопіс — 1416 зл.

**„Работніца і сялянка“** — штомесячны папулярны часопіс (з выкрайкамі, парадамі і г.д.) — 360 зл.

**„Чырвоная змена“** — выходзіць пяць разоў у тыдні, газета беларускай моладзі — 1024 зл.

**Выпісаць беларускія савецкія часопісы можна:**

у горадзе Беластоку:

— на поштах на вул. Варшаўскай, Каляёвай, Міцкевіча, Упальнай, Пшэндзальнянай, Хробрага, у Старасельцах;

— у клубе МПіК на вул. Сянкевіча;

— у кіёску „Рух“ на вул. Прухняка.

па-за Беластокам:

— у аддзяленнях „Прэса- Кніга-Рух“ у Бельску, Гайнаўцы, Дуброве, Саколцы і Сямяцічах;

— на ўсіх поштах.

Пра ўсе справы, звязаныя з выпаўненнем адпаведнага бланка, інфармуюць працаўнікі „Руху“ і пошты. З імі ж трэба дамовіцца пра спосаб дастаўкі газет і часопісаў.

**Зычым прыемнага чытання!**




### ЦІ МЫ САПРАЎДЫ ТАЎКАЧЫ

I зноў Васіль Петручук у апавяданні „Таўкач“ („Ніва“ № 32 ад 10 жніўня) „заліў бомбу“. Бо не ведаю, да якога рода мастацтва можна залічыць гэты твор: ці гэта апавяданне, ці гэта жарт-анекдот, ці мо быль?.. Ці сапраўды нейкая Параска палічыла нямецкія гранаты за нейкія таўкачы і аж цэлую фуру назбірала іх. Але мы не малыя дзеці і ведаем пра тое, што жалезны цяжкі таўкач ніяк не можа падыходзіць да сваёй ролі ў руках гаспадыні, бо ім толькі псуецца начынне, чыгуны, абіваецца пасуда у іх, а ў той час гэтыя прадметы вельмі цаніліся. Толькі драўляны ці драцяны таўкач калісьці, як і сёння, найлепшыя, каб таўчы бульбу.

Муж Парасکі распазнаў, што гэта за штука ў руках яго жонкі, і нават яны пападалі на зямлю са страху, што граната можа разарвацца, бо муж застаў яе акурат у той час, калі яна гранатаю таўкла бульбу. Цікава і тое, што ўсе жыхары вёскі пачалі ў Парасکі купляць гэтыя таўкачы-гранаты, не маючы ніякага паняцця, што купляюць пэўную смерць. Калі ўжо Параска была недаразвітая, мо выходзіць, што і тыя людзі ўсе былі дурныя і не менш дурныя тыя, што на рынку ў Кляшчэлях таксама куплялі наперабой гэтыя ж цудоўныя таўкачы. Выццам усе яны толькі павыходзілі з дома вар'ятаў, бо не маглі распазнаць цяжкую нямецкую гранату з драўлянай ручкай ад звычайнага таўкача.

Выходзіць, што нашы людзі таксама — таўкачы. Штосьці тут, дарагі Васілёк, не так, бо няхай у той час адукаваных людзей у вёсках не хапала, але былі і мудрыя мужчыны і жанчыны, і такія былі, што сапраўды перахоўвалі ўсялякую зброю на патрэбы ў барацьбе з ворагам, у тым ліку і таўкачы-гранаты перадавалі ў рукі партызан. У Дубічах Царкоўных былі такія.

Самое ж апавяданне „Таўкач“ — гэта ні што іншае, як няўдалая Петручукова выдумка. А калі выдумка, дык не варта называць мясцовасцей, як, напрыклад, Кляшчэлі, хопіць літары К.

Трэба пісаць праўдзіва аб апошняй вайне і яе заканчэнні і пра першыя дні пасля заканчэння. Калі ж будзем ілгаць, дык і праўдзівым апавяданням маладое пакаленне не паверыць. Не варта з сябе рабіць дурня, бо хто з кагосьці робіць дурня, сам ім застаецца. В. Петручук падтрымаў сваім апавяданнем нямецкую прапаганду, якая змяшчалася ў акупацыйных газетах. Там быў малюнак. Беларус разбірае танк і з яго сталі выкоўвае плуг, сашнік, адкладню, а зброя яго ні трохі не цікавіць. Значыць, беларусы — гэта не патрыёты. І якія ж яны могуць быць патрыёты, калі і сам В. Петручук ясна паказвае, што нават нямецкую гранату ўся вёска і цэлы рынак у Кляшчэлях не маглі адрозніць ад звычайнага таўкача. Чытаючы В. Рудчыка, дык і ў нас зямля пад нагамі немцаў гарэла, так мы адчайна супрацівляліся. І мы яму верым, бо гэта была праўда.

**М. Панфілюк**

# РЭСПУБЛІКА

**(Працяг са стар. 1)**

ўсё жыццё табе гэта выгаварваюць. Наступіў цяпер іншы час.

— Якая розніца часу?

— А такая, што цяпер кожны хоча жыць добра і яшчэ лепш. Трэба хапаць аказію, выкарыстаць усе магчымасці і не аглядацца на іншых. Толькі такія могуць жыць. Толькі такія маюць.

— Гаворыш аб тых, якія несумленна працуюць і зарабляюць?

— Чаму адразу несумленна? Прызнаюць салідныя законы ігры. І гэта — сумленнае. Сама хочаш, каб у цябе былі якія грошы. За грошы можна ўсё.

— Што гэта — „усё“?

— Ну — хату, машыну, дзяўчыну, Канарскія астравы. Рыўеру, знаёмствы. Жыць хочацца.

— А Валік? На гэта ўсё не было ў яго надзеі? Калі думаў так, як ты, то не патрабаваў шпрыцаваць сябе на смерць. Грошы былі...

— Грошы бацькоў.

— Зароблeныя добрасумленна...

— Пэўна. Выкарыстаны ясныя законы. Я табе — ты мне. Рука руку мые. З Валікам таксама. Прынясеш „пяць“ — дастанеш пятака. Паправіш матму — будзе фіят. Здасі экзамен — будзе хата.

— З хатай не так проста...

— Як каму. Паступіш вышэй...

— А як не паступіш?

— Бацька даваў ад рукі механічны варштат. Што дае вышэйшая школа — толькі паперку. Валік хацеў даўжэй пабыць маладым. Старыя ж яшчэ не збіраюцца на той свет, а варштат — не заяц. А зноў маці, з вельмі добрай сям'і, бачыла іншую кар'еру для адзінага сына.

— Словам — свет стаяў перад ім.

— Хацеў бы мець такія „уклады“.

— Ці ў гэтых „укладах“ памяшчаўся і „чад“? Ці яго смерць — гэта толькі выпадкова?

— Ну, проста перасаліў дозу.

— Але чаму „браў“? Гэта ж без сэнсу. Хацеў чымсь вылучацца?

— Чаго... У нас у школе гэта ўжо не „шпан“. Пяць год таму назад гэта было шыкоўна — „браць“. Цяпер той, рэлігіяй якога стала „не браць“, ёсць кімсьці.

— А ты?

— Ох, гэта толькі нюханне клею, сорамна прызнацца. На лепшае не было ў мяне грошай...

— Гаворыш гэта з горыччу. Гэта ж добра, што ў цябе засталося здаровае цела... Я бачыла, як ты ламатаў таго лысага. Упаў ён, як сноп.

— Няма чым хваліцца, ён паміраючы чалавек. Не магу глядзець на такія макавыя астанкі. Не пераношу слабасці.

— Пасля наркотыка чалавек не пануе над сваім целам.

— Таму я і не „бяру“.

— А чаго ты чакаеш ад жыцця? Ты цяпер моцны. Вылучаешся сярод тых, якія доўга ўжо не пацягнуць. Іх лозунг — „няма будучыні“. Ты ўсё ж з імі.

— Мушу. Я з іх пакалення. Гэтая чорная куртка — мая скура.

— Валік не насіў такой курткі, ні такіх „панчохаў“, ні каляровага „вожыка“ на галаве.

— Валік быў настолькі паслухмяны і мілы для сваіх бацькоў. Ды і не мог рашыцца.

— На недахоп грошай, ясныя жэсты, агрэсію?

— Мяшаеш усю філасофію.

— У вашай групы няма ніякай філасофіі. Твой бог — грошы, Юркі — біць добра і піць добра, Яські — дзяўчаты. Можа толькі Б...

— Ён голы да самых касцей. Яго ўдарыць можна нават пацалункам.

— Б. гаварыў мне, што ён веруючы пацыфіст. Але чаму ён з вамі? Няхай ідзе ў касцёл ці ў маладзёжную арганізацыю.

— Божа, якая ты дурная. Гэта ж усё старое ад плесні ды безнадзейнае. Няма ў гэтым нават прытворнасці...

— Новасці, блеску, незвычайнасці? Гэта ўсё прыцягвае.

— І выкідае за борт, калі нехта не надаецца.

— Не надаецца... Сярод вас няма людзей старэйшых, больш дваццаці год?

— Старэйшыя былі сярод гіпісаў, ужо даўно паліналі, замаскіраваліся. Яны былі іншыя.

— Думаеш аб адыходзе ад свету, жыцці ў камунах?

— Дзеці-кветкі гэта слабое, млоснае. Калі і мы — кветкі, то драпежныя, як расоўка.

— Значыцца, філасофія... смерці? Але ж гэта не на месцы, калі чалавеку 17 год. Не марыце ж аб... смерці. Сваёй? Іншых? У Гданьску паявіліся маладыя фашысты. Я бачыла сярод вас Паклоннікаў Сатаны з адвернутым крыжам на шыі. Выглядала б усё гэта на нейкі паранаічны карнавал, каб не кроў, агрэсія, наношванне смерці сабе і іншым.

— Ты забыла яшчэ аб музыцы.

— Якая лагодзіць норавы, гавораць. Што за народ...

— Наша рэспубліка без народу і ўладаў. Гэта рэспубліка не грошай і нажывы. Валік прыйшоў да нас — меў яшчэ надзею на нешта іншае, шукаў сяброў, прыязнай рукі, хаця б уяўнай сувязі, згуртаванасці, прызнання, якое не ідзе ад уладання грашмі.

— Тут справа ва ўладанні сілай!

— Праўда, важаком можа быць толькі той, хто выйграе, у якога сіла — як усюды.

— Рэспубліка слабых, узброеных па зубы.

— Узброеных таксама музыкай. Яна ўсё заглушае, зліваецца з пульсам крыві.

— У рытме маршаў ішлі і забівалі. Ты аб гэтым ведаеш з фільмаў і кніжак.

— Божа мой, гэта ж усё — жыццё. З жыцця адзінак складаецца гісторыя народу, а з гэтага — гісторыя свету.

— Не зашырока бярэш? Думаеш, што гэты дробны наркаманчык, які лье ўжо ў нагавіцы з-за недахопу сіл і фізіялагічнай неабходнасці, паказчык таго, што праходзіць у сучасным свеце, або гэты малалетак-нюхач клею?

— Бачыш, у гэтым малым свеце, як у кроплі вады, адлюстроўваецца вялікі свет. Ёсць такія, якія могуць; такія, якія хочуць; якім усё роўна. Ёсць такія, у якіх ёсць надзея і такія, якія яе згубілі. Якія вераць, і ад якіх адвярнуўся Бог.

— А ты?

— Я? Толькі назіральнік.

— Гэта ж баязлівасць.

— Не, я не баюся. Не ўцякаю.

— Але што робіш? Ці гаворыш з імі, ці пераконваеш?

— Пераконваюць толькі „згрэды“. Тут патрэбна іншае.

— „Свой прыклад?“

— А што нам прапануеш?

— Што т а б е прапануем...

**Міра Лукша**

 

(Працяг са стар. 3)




*та не выпадае. Якраз гэты чалавек набегаўся вакол справы найбольш, а што ўлады праваслаўнай царквы патрапяць даць слова, а потым яго не стрымаць, то ўжо зусім другое. Я быў на сустрэчы са святаром, якому была перададзена гэтая справа і які абяцаў нам давесці яе да канца, а потым, па тэлефоне, адказаў у такой больш-менш форме: „Ребята, пожалуй, ничего не получится". Зрэшты, не быў гэта адзіны раз, калі ўлады праваслаўнай царквы не стрымалі свайго слова. У варшаўскім клубе БГКТ чакалі мы тры чарговыя чацвяргі прадстаўніка царквы. І, думаеце, дачакаліся?*

*Хачу дадаць, што прадстаўнікі іншых веравызнанняў вельмі прыхільна адносіліся да нашых запрашэнняў, прыходзілі на дамоўленую гадзіну, расказвалі, адказвалі на пытанні і не толькі нічога дрэннага нікому не сталася, але ўсе мы пасля такіх сустрэч былі намнога лепш паінфармаваныя.*

*А цяпер перайду да галоўнага вашага закіду. Адносіцца ён да нашай дзейнасці ў рамках ЗСП. Няпраўда, што Юрка Ляшчынскі піша, быццам беларускія студэнты былі патрэбныя гэтай арганізацыі ў 1980—82 г.г. Прыпамінаю вам: ЗСП паўстала пасля ўвядзення ваеннага палажэння, гэта значыць толькі ў 1982 годзе. І тут гаворыце няпраўду, калі пішаце, што беларусаў у ЗСП не было так і многа. Добра ведаеце, што ў пачатку свайго існавання гэтая новая агульнапольская арганізацыя, пасля ліквідацыі старых у снежні 1981 г., не карысталася папулярнасцю сярод студэнтаў, хаця на сваю дзейнасць мела яна шмат сродкаў. Шкада, што не магу падаць вам дакладных лікаў (я тут асоба не зусім кампетэнтная і таму просьба да людзей, якія стварылі пачаткі беларускага студэнцкага жыцця — адгукніцеся!), але спачатку ў Беластоку беларусы складалі найменш трэцюю частку мясцовага ЗСП. Больш-менш столькі ж людзей, што ў Беластоку, налічвала варшаўская Рада культуры студэнтаў беларускай нацыянальнасці. Выходзіць: зноў беларусы баранілі народную ўладу. Але прайшло чатыры гады — і сродкі зрабілі сваё: нідзе не знойдзеце такой магчымасці паездкі за граніцу, як у ЗСП (хіба што ў ЗСМП — Саюзе польскай сацыялістычнай моладзі). Можа гэта не адзіны магніт, які прыцягвае людзей у гэтую арганізацыю, але напэўна адзін з галоўных. Што беларусы сталі не вельмі каб патрэбнымі для ЗСП, няхай сведчаць цяжкасці, на якія натыкаемся ў арганізаванні сваіх мерапрыемстваў. Мо ў Беластоку справа выглядае лепш, але ў Варшаве — дрэнна.*

*У сваім лісце хваліце „Сустрэчы". Калі хваліце, значыць, чыталі, калі чыталі, значыць, заўважылі розніцу паміж двума першымі і трыма апошнімі нумарамі. Ці вы думаеце, што нам так сабе захацелася адбіваць іх на ксераграфе, і то адбіваць менш, каб браць за іх больш грошай? А мо думаеце, што мы не выкарыстоўвалі магчымасцяў, не паказваліся ў ЗСП, не дабіваліся свайго? Я хачу толькі заўважыць, што выпуску трэцяга нумару нашага часопіса чакалі мы амаль год, а калі зрабіліся больш самастойнымі, то на працягу паўгода выдалі два нумары.*

*Справа з мерапрыемствамі другога тыпу выглядае таксама. Найчасцей усё разбіваецца аб бюракратыю.*

*Закідаеце нам таксама, што не бярэм удзелу ў розных пасяджэннях улад ЗСП. Мне здаецца, што ў пасяджэннях улад прымаюць удзел улады, а каго ў іх няма, самое сабою разумеецца — прымаць удзелу не можа. Хачу вас таксама запэўніць, што мы не баімся ані не саромеемся заступацца за роднае і дзе толькі можам чаго-небудзь дабіцца — стараемся штосьці рабіць. А наконт заснавання нашай Рады культуры, не хачу выказвацца, бо тады яшчэ я не быў студэнтам. Аднак мне здаецца, што вы крыху спрошчваеце справу, гаворачы пра заслугу аднаго чалавека, дзякуючы якому яна з'явілася. Вельмі добра было б, каб на гэту тэму выказаліся людзі, якія тады былі ў цэнтры падзей. Гэта напэўна дапоўніла б мой адказ, а перш за ўсё выявіла б погляды іншых. Хачу тут адзначыць, што мой адказ не прадстаўляе погляды ўсяго нашага асяроддзя, а выключна мае ўласныя.*

**Студэнт з Варшавы**

# У ЛОКНІЦЫ

Маё знаёмства з Локніцай пачалося ад пачутага клёкату буслоў. Кацярына Здрайкоўская кажа:

— На нашу клуню прылятаюць буслы ўжо шосты год. Летась выседзелі яны чатыры бусляняты, тры з іх ужо лётаюць, а адно, пэўна, хворае... Можа, ветэрынара якога паклікаць да яго?

Дванаццаць гадоў солтысам тут Аляксандр Пракапюк. У яго вельмі адназначны погляд на міграцыю вёскі ў горад: каму добра жывецца, той у ніякім горадзе не шукае сабе шчасця! У Локніцы трыццаць восем гаспадарак. Асушаны тут адзін луг, а на другім кладуць дрэнаж. Ворыўнай зямлі — каля чатырох соцень гектараў і восемдзесят — свайго лесу, столькі ж і



Хата з XIX ст. у в. Турна Малая. Графіка У. Петрука.

# З ПАЕЗДКІ Ў БССР

## Сведкі гісторыі

Вуліца Леніна крута апускалася ўніз, да моста над глыбокім ярам, на дне якога бурлівіла Віцьба — рэчка-маці Віцебска. На жаль, ужо засмечаная адпадкамі чалавечай прысутнасці ў вялікім горадзе. Недалёка адсюль, за Старым Замчышчам, уліваецца яна ў Заходнюю Дзвіну. У абойме гэтых дзвюх рэчак, здаецца, і пачынаўся старажытны Віцебск. Цяпер вядзецца тут пабудова мемарыяльнага комплекса, прысвечанага аб'яднанню дзвюх віцебскіх рэчак. Ён устаноўлены на ўзбярэжжы Віцьбы, на ўскраіне Плошчы Свабоды, па-суседску з гарадской ратушай. Даводзілася мне чуць гарачыя спрэчкі, якія аб ідэі пабудовы гэтага помніка і аб месцы, яму прысвечаным, вялі тутэйшыя журналісты, пісьменнікі і дзеячы культуры. Ну што ж, так заўжды бывае, калі ствараецца штосьці новае, што закранае нашу спадчыну. І мне чамусьці ў гэты момант успомніліся радкі з верша Уладзіміра Караткевіча „Беларускае мінулае".

„Вазьмі ў звычай, сын герояў і багоў.  
Не пагарджаць святым сваім мінулым,  
А заслужыць яшчэ і вартым быць яго..."

Гэта з кніжкі „Быў, ёсць, буду". Гэта апошняя кніжка, якую ў сваім жыцці паспеў падрыхтаваць заўчасна згаслы таленавіты паэт. Ён адсюль, з Оршы, што на поўдні Віцебскай вобласці. Бываў частым госцем у Віцебску, хаця ад 1962 г. жыў пастаянна ў сталічным Мінску. Уладзімір Пятровіч, які шчыра сябраваў з Уладзімірам Караткевічам і прымаў дзейсны ўдзел у пастаноўцы ў Віцебскім тэатры ягоных „Званоў Віцебска", гаварыў мне, што пісьменнік гэты гадзінамі цэлымі мог з захапленнем расказваць аб мінулым горада на Віцьбе і Дзвіне, аб яго старых вуліцах і завулках, хаця яны даўно ўжо заліты сучасным асфальтам і забудаваны шматпавярховымі жалезабетоннымі карпусамі. Асабліва бараніў ён ад затраты помнікі царкоўнага дойлідства. І зноў аж просіцца мне пад пяро Караткевічавы словы з гэтага ж зборніка:

„... І пра тое кожны пяе салавей  
Росным кветкам у роднай траве:  
„На Беларусі бог жыве", —  
І няхай да веку жыве..."

Вось якраз па дарозе трапляюцца мне нядрэнна яшчэ захаваныя развалiны нейкай аграмаднай царквы. У даведніку пра „Віцебск і яго наваколле" знаходжу інфармацыю, што гэта, мабыць, руіны Благавешчанскай царквы, якая была пабудавана тут яшчэ ў XII ст., ды пабудавана асаблівым спосабам. Яе сцены ўзведзены з вузкай цэглы, падобнай на візантыйскую. Рады гэтай цэглы чаргуюцца з вялікімі цёсанымі валунамі вапняковай пароды. Такая кладка сцен, распаўсюджаная ў старажытнай Візантыі, даволі рэдка сустракаецца ў будоўлях старажытнай Русі. Ці ж полацкія князі Васількавічы, якія тады трымалі ўладу і над Віцебскам, аж у Візантыю пасылалі за будаўнікамі храма гэтага Благавешчанскага? Аўтары даведніка адзначаюць, што паводле меркаванняў вядомага беларускага археолага Г. Штыхава „... Благавешчанская царква разам са Спаскай і некаторымі іншымі старажытнага Полацка, стаіць ля крыніц новага напрамку ў дойлідстве..."

Неяк, памятаю, згаварыліся мы аб гэтым з пісьменнікам Салтуком Алегам Уладзіміравічам, які ў Віцебску ўзначальвае праўленне абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў БССР.

— Ідзе зараз змаганне за аднаўленне гэтага помніка беларускай культуры, — заявіў ён. — За гэта яшчэ змагаўся таксама і Уладзімір Караткевіч.

Царква будзе адбудаваная. Да такога вываду прыходжу на аснове заўваг у віцебскім друку і гутарак з віцебскімі сябрамі, а таксама на аснове інфармацыі ад Галіны Клёсавай, якая ў Віцебску з'яўляецца начальнікам упраўлення культуры.

Далей, бліжэй да рэчкі Віцьбы, там, дзе вуліца Леніна ад гэтай рэчкі падымаецца ўгору і ўліваецца ў прасторную Плошчу Свабоды, прысела былая гарадская ратуша, у якой зараз памяшчаецца гісторыка-краязнаўчы музей Віцебска і Віцебскай вобласці.

Я спыніўся, каб хвіліну даўжэй палюбавацца гэтым сведкам віцебскай даўніны. З узгорка вул. Леніна, на якім я знаходзіўся, з адлегласці больш за 1 км віцебская ратуша здавалася прыгожай карцінкай, устаноўленай на фоне зялёных дрэў і сучаснага пасляваеннага будаўніцтва. У яркім сонцы яна зіхацела свежай штукатуркай,



 

пашы. Найбольш гадуюць быдла і свіней. Ёсць добры каваль, да якога можна пайсці з рамонтам нейкай машыны, — гэта Алёша Ігнацюк. Механікам, шафёрам і спецыялістам па легкавых машынах тут Сымон Мартынюк.

Кажуць, калісьці недалёка вёскі быў вялікі бой, даўно... Выкопваюць у гэтым месцы чалавечыя косці. Але гэта, відаць, старадаўнія, гістарычныя могілкі, якімі трэба зацікавіць вучоных.

Ёсць святліца для моладзі. Вось можна было б у гэтай святліцы наладзіць сустрэчу з цікавым чалавекам — гісторыкам, літаратарам ці журналістам „Нівы" і трохі пагаварыць, каб даведацца і пра гістарычнае мінулае ваколіцы.

Крама тут працуе рэгулярна, абслугоўвае яе Марыя Сахарчук.

Лакнічане кажуць: мы нямала зрабілі, каб жыць выгадней, вазілі жвір на дарогу ад нас у Мякішы, раўчакамі абкапалі яе, мост на рэчцы Локніцы адрамантавалі. Падлічана вартасць усяе работы: зрабілі на мільён злотых. Сярод моладзі дзейнічае гурток ЗСМП, якім кіруе Сымон Мартынюк. А гуртком гаспадыняў — Міраслава Дудзіч: святліцу даглядаюць, куранят разводзяць, курсы ўсякія ладзяць.

У Локніцы жыве 99-гадовая Зося Хірсюк і 86-гадовы Арцём Кучынскі.

На месцы, званым Чваракамі, жыве шэсць гаспадароў. На тых Чвараках калісьці быў двор пана Лушчынскага, вельмі нядобрага пана. У Чвараках тых была прыгожая дзяўчына Люцына, у якой — вочы, бы васількі, валасы цудныя і доўгія былі. Цяжкая доля выпала на яе лёс. Яна не перанесла ганьбы ад пана, які не даваў ёй спакою, і ўтапілася ў Локніцы. Вялікай мусіла быць яе роспач, калі яна ўтапілася ў такой невялікай рэчцы.

**Андрэй Гаўрылюк**

## ГРЫНЕВІЦКІЯ БЕДЫ

Вялікія Грыневічы сталі вельмі занядбанаю вёскаю. І хоць яна немалая ды — дзіва цяпер! — маладая, бо жыве ў ёй аж сорак пяць гаспадароў, пераважна маладых, аднак няма тут нічога, што аблягчала б іх жыццё і працу. Перш за ўсё, надта благая сюды і выбоістая дарога. А святло вулічнае ў Вялікіх Грыневічах дык і зусім не гарыць вечарамі, ажно страшна часам выходзіць на вуліцу. Аніводная лямпачка на слупе не свеціцца, хоць апраўкі для іх ёсць. Грыневіцкі солтыс зусім апусціў рукі, нідзе і нічога, як відаць, не дамагаецца ён ад імя грамады. Тут няма нават крамкі якое, у якой можна было б купіць хоць неабходныя для штодзённага жыцця прадукты. За кожнай дробяззю трэба валачыся ў Бельск аж чатыры кіламетры. Праўда, у мінулым годзе перавезлі сюды хату адну, каб святліцу з яе зрабіць. Але ўсё заціхла з гэтай справаю — ані святліцы тае няма, ані якога іншага толку. Уладзімір Шыманюк узяўся скупляць яйкі ў Вялікіх Грыневічах. Думалі людзі, хоць з гэтым палёгка якая будзе, бо абрыдла насіцца з яйкамі тымі ў Бельск усё той (курэй тут гадуюць нямала). Але Шыманюку не спадабалася гэтакая работа, перастаў прымаць яйкі ад гаспадыняў. Добра, хай робіць, як хоча, але, пытаюць людзі, — чаму ён не адступіцца ад умовы на скупляне яёк, каб хто другі пасля яго мог заняцца гэтым інтарэсам? Сам не гам і каму не дам!

У суседніх Праневічах, што ля шашы з Беластока ў Бельск, дык там парабілі акуратныя дарожкі нават на поле. А чаму і ў Вялікіх Грыневічах не зрабіць? — пытаюць людзі. Гэта пытанне да начальніка Бельскай гміны. І яшчэ адна бяда ў Вялікіх Грыневічах: меліярацыйныя равы зарастаюць усякаю травою ды заплываюць балотам. Ніхто іх не ачышчае, хоць грошы за ачыстку бяруць ад грыневіцкіх гаспадароў, па дзевяцьсот злотых штогод за адзін гектар. Усе яны ідуць на водную суполку, якая і павінна дагледзець гэтыя равы, але дзе там! Каму ў той суполцы хочацца рабіць? Альбо парабілі на грынявіцкіх палях дрэнажы. І што — думаеце, добра парабілі? Грошы за гэта ўзяць то ўзялі, але вада як стаяла лужынамі на палях тых каля Гацькоў, так і надалей стаіць, як ні ў чым не бывала.

Жыццё грыневічан такое: куды ні кінь, усюды клін! Няўжо няма ўжо ні ў Бельску, ні дзе там на свеце такое сілы, каб дапамагчы Вялікім Грыневічам у іх бедах, у якіх больш халтуры ды ашуканства, чым спачування?! Можа, сам начальнік Бельскай гміны аб'явіцца добрым духам Вялікіх Грыневіч? Тым болей, што была б начальніку падтрымка ад грыневіцкага народу.

**Андрэй Гаўрылюк**

## СУПРАЦЬПАЖАРНЫ БАСЕЙН

У канцы Альхоўкі (гм. Нараўка) знаходзілася старая запушчаная сажалка. Мясцовыя жыхары даўно хацелі там выкапаць супрацьпажарны басейн. Асабліва зацікавілася гэтай справай партыйная арганізацыя вёскі і камендант супрацьпажарнай каманды добраахвотнік Міхал Стома. Два гады назад Гмінная ўправа ў Нараўцы паглыбіла сажалку, а летам гэтага года выдзеліла грошы на ўмацаванне берагоў басейна тратуарнымі пліткамі і дзярном.

У грамадскім пачыне сяляне ўласнымі трактарамі падвозілі дзярно. Першым выехаў солтыс Анатоль Раманчук, а за ім і другія гаспадары. Асталося дакончыць агароджу басейна, у якім на выпадак пажару заўсёды будзе вада.

**М. Варанецкі**

## НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

W nawiązaniu do notatki prasowej („Niwa" Nr 31 z dnia 3 VIII 86) w sprawie wyładowania się baterii do elektrycznego ogrodzenia pastwiska uprzejmie informujemy, że bateria została zakupiona przez Walentego Siemieniuka ze wsi Rajki w tutejszej Spółdzielni w dniu 18 II 86 r.

Zwróciliśmy się do Zakładów Wytwórczych Ogniw i Baterii we Wrocławiu o poinformowanie nas, czy bateria do elektrycznego ogrodzenia użytkowana przez 1,5 miesiąca, która uległa rozładowaniu podlega reklamacji.

Telexem nr 156 z dnia 25 VIII 86 r. zostaliśmy poinformowani przez w/w Zakłady, że „czas eksploatacji baterii zależy od warunków użytkowania „między innymi od wielkości pobieranego prądu i od sprawności urządzenia. Baterie są badane na zgodność z PN-85/t-89200/31. W/g w/w normy czas pracy baterii wynosi minimum 600 godzin (rozładowanie ciągłe pod obciążeniem 20 omów do napięcia końcowego 3,4 V). W związku z powyższym rozładowana bateria (zużyta) nie może być przedmiotem reklamacji".

Nadmieniamy, że w br. rozprowadziliśmy wśród rolników 710 sztuk baterii do elektrycznych ogrodzeń pastwisk, a aktualnie zapotrzebowanie wynosi około 800 baterii.

W m-cu maju br. złożyliśmy zamówienie w Zakładach Wytwórczych Ogniw i Baterii we Wrocławiu na 1000 baterii z realizacją dostawy w I i II kwartale 1987 r. z prośbą o przyśpieszenie dostawy.

Zamówienie zwrócone z adnotacją „Zamówienia Waszego nie przyjmujemy do realizacji, ponieważ portfel zamówień na rok 1986 jest już zamknięty. W chwili obecnej nie możemy się wypowiedzieć na temat wielkości produkcji oraz asortymentu na rok 1987."

Okręgowa Spółdzielnia
Mleczarska
w Bielsku Podlaskim
Dział Skupu

V-ce Prezes
d/s skupu i handlu
**Stefan Konachowicz**



Віцебская ратуша.

бо якраз праводзілася абнаўленне гэтага помніка культуры. Музей, на жаль, быў закрыты.

Кожная ратуша заўжды з'яўлялася цэнтрам горада. Не інакш было і ў Віцебску. Калі яшчэ не існавалі ні Плошча Свабоды, ні вуліца Леніна, навокал гэтай ратушы мясцовыя і прыезныя купцы раскладалі свае тавары, а ва ўсе бакі свету адыходзілі вуліцы горада.

Першы будынак гарадской ратушы ў Віцебску быў пабудаваны ў 1597 годзе. Ён праіснаваў нядоўга, ледзь чвэрць стагоддзя. Будынак ратушы, які датрываў шчасліва да нашых дзён, мае метрыку нараджэння з 1775 г. з папраўкай у 1911 г., калі над двума першапачатковымі паверхамі дабудавалі яшчэ адзін, закрываючы часткова шматярусную ратушовую вежу з гадзіннікам, устаноўленым на ёй яшчэ ў канцы XVIII ст., калі асабістыя гадзіннікі былі вялікай рэдкасцю, даступнай толькі найбагацейшым жыхарам горада, як сёння асабістыя камп'ютэры.

Была гадзіна дзесятая раніцы. З ратушовай вежы паплыў над Віцебскам штогадзінны сігнал ратушовага гадзінніка. Праўда, ён хутка ўтапіўся ў вулічнай какафоніі, але я ведаў, што ратушовы гадзіннік у Віцебску жыве сваім рытмам, а ў абед... вось менавіта. Віцебскія сябры параілі мне, каб з наведаў віцебскую ратушу дакладна ў абед. А чаму, дык яны мне не сказалі. У свабодны дзень рашыў я выявіць тайну гэтай загадкавай прапановы. Калі стрэлкі ратушовага гадзінніка зраўняліся на лічбе „12", тады над горадам разнесліся гудкі віцебскіх курантаў. Я прыслухаўся і зразумеў, што гэта першыя радкі вядомай песні беларускага кампазітара Уладзіміра Алоўнікава і беларускага паэта Алеся Бачылы „Радзіма мая дарагая".

Вечарам зайшоў да мяне Уладзімір Пятровіч, папрасіў на супольную прагулку па горадзе. Мы накіраваліся цераз Замкавую вуліцу, у бок моста над ракою Заходняя Дзвіна. Тут узвышаецца помнік Пятру Міронавічу Машэраву, двойчы Герою Савецкага Саюза і выдатнаму партыйнаму і дзяржаўнаму дзеячу БССР, які нарадзіўся на Віцебшчыне і ў Віцебску закончыў педінстытут. Затым спыніліся каля прыгожага будынка драматычнага тэатра імя Якуба Коласа, пра які будзе ў нас нагода пагутарыць асобна.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Скажы мне, дзе і як знайсці тое шчасце, бо я ўжо страціла надзею. Мне ўсяго 26 год, а здаецца мне часамі, што ўсё, што было добрага, засталося за мной. Я — вясковая дзяўчына, і працы не баялася ніколі. Паехала шукаць шчасця ў недалёкае мястэчка. Працу знайшла, і там пазнаёмілася з ім. Было гэта шалёнае каханне, і мы пажаніліся. Абое працавалі, пакуль не пасыпаліся дзеткі. На працягу шасці год нашага супольнага жыцця нарадзілася іх трое. Так што кінула я працу і пачала выхоўваць дзяцей. Муж мой працаваў, зарабляў добра, а пры ўсім гэтым памагаў мне шчыра і ахвотна і ў гаспадарцы, і ў выхаванні дзетак. І, можа, шчасце наша трывала б вечна, каб мой муж не захварэў. Вельмі доўга ён лячыўся, а пасля яго адправілі ў санаторый.

Вярнуўся з санаторыя зусім іншы. Быў маўклівы, не гуляў ужо з дзяцьмі, амаль не адзываўся да мяне. Ён спаў, адпачываў, глядзеў тэлевізар. Хутка падшукаў сабе іншую працу і пачаў туды даязджаць. З гэтымі яго даездамі было па-рознаму. Вяртаўся, калі хацеў, пазней жа здаралася, што і зусім не вяртаўся нанач.

Я яго прасіла, плакала, заклінала на наша каханне, але з кожным днём муж станавіўся ўсё горшы. Хутка міне год ад гэтай яго перамены, а адносіны нашы ўсё пагаршаюцца. Дайшло да таго, што ў сварках, якія часамі між намі ўзнікаюць, ён стаў выкрыкваць розныя праклёны і біць мяне. А ў апошні час дык нават гаворыць аб разводзе.

Дарагое Сэрцайка, скажы мне, што здарылася з маім мужам, як гэта так можа быць, калі людзі кахаюць адзін аднаго? І што мне цяпер рабіць? Чакаю адказу.

**Люся**

Люся! Ніякі мужчына без прычыны не кіне жонку і трое дзяцей. У тваім паняцці — каханне павінна вас спалучаць, але ты ніяк не можаш зразумець той страшнай праўды, што ваша каханне было, але не ёсць. Мінула яно, разумееш? Відаць, муж, малады яшчэ чалавек, будучы ў санаторыі, засмакаваў свабоды, а мо і маладзіца якаясь падвярнулася. Нездарма ж падшукаў сабе працу ў іншым горадзе, ды і вяртаецца як хоча. Просьбамі і малітвамі, а тым болей — плачам тут нічога не зробіш. Мусіш узяць сябе ў рукі і быць станоўчай. Забыцца, што ён існуе! Можаш уявіць сабе, што ўтапіўся! Жыць сваім жыццём, не гаварыць з ім, не дзяліцца. Нічога не патрабаваць! Як схоча паесці — няхай есць. Хоча спаць (адзін, вядома) — няхай спіць. Апякуйся дзецьмі, каб яны як мага менш адчулі ўвесь цяжар твайго становішча. На развод, аднак, занадта хутка не згаджайся. Трэба высветліць дакладна, што парабляе твой муж, і навошта яму той развод патрэбны.

**Сэрцайка**

## БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

Варта заняцца характарам самой вясельнай бяседы. Трэба падкрэсліць, што яшчэ ў дваццатыя, а нават трыццатыя гады вясельнікі, заняўшыя месца за паасобнымі сталамі, мелі ў сваім распараджэнні толькі адну чарку або шклянку на стол. Гэта пасудзіна кружыла з рук у рукі згодна з рухам Сонца. Атрымаўшы налітую чарку, трэба было звярнуцца да суседа і выказаць пажадальную форму тыпу: „Будзь здароў!“, „На здароўе!“, „Жыві!“, „За ўсё!“, „На шчасце!“, „Ну, будзем!“.

У перыяд вайны дайшлі новыя формы тыпу: „На пагібель!“, „За свабоду!“, „За ўсіх пленных і ваенных!“.

Кожнага абавязвала адна і тая ж норма: трэба было піць хутка і да дна. Нельга было прытрымліваць чарку, бо яе чакала дзесяць-пятнаццаць або і дваццаць чалавек, якія сядзелі за сталом. Прымус піцця трактаваўся як пажаданая норма. Асабліва з боку гаспадароў некаторыя госці, асабліва жанчыны, а тым болей дзяўчаты чакалі „прымусу“, без якога піць не выпадала. З гэтай прычыны прэсінг з боку суседзяў з-за стала быў аграмадны. Калі гаспадары не прымушалі гасцей піць, дык гэта лічылася праявай скупасці, эгаізму і негасціннасці. Крытэрыямі добрага вяселля была не толькі колькасць ежы і гарэлкі, але і інтэнсіўнасць заахвочвання да спажывання ежы і пітва. Нярэдка госці, вяртаючыся з вяселля, выказвалі аб ім дрэнную апінію ў тым выпадку, калі гаспадары не вельмі энергічна прымушалі гасцей есці і піць. У такіх сітуацыях госці гаварылі: „Усяго было многа, але прымусу было мала“.

У розных вёсках старэйшыя жыхары расказваюць аб такіх гаспадарах, якія, кіруючыся скупасцю, падавалі на сталы мала ежы і гарэлкі. А здараліся быццам і такія выпадкі, што гаспадары, рыхтуючы каўбасу ці паштэты, сыпалі ў іх празмерную колькасць солі або перцу. Рабілі гэта з той мэтай, каб госці мала елі. У маёй роднай вёсцы жыў адзін чалавек, які ўсім тым, хто рыхтаваўся да вяселля, прапанаваў рэцэптуру вясельнай каўбасы. Паводле яго, трэба было, рыхтуючы каўбасы, захаваць такія прапорцыі: пуд мяса, пуд саланіны і пуд солі. Зразумела, што яго прапановы не былі пазбаўлены камізму. Аднак, у гэтым жарце была і нейкая доза праўды. Зразумела, што праявы скупасці на вяселлі былі з'явай рэдкай, намнога часцей выступалі праявы выключнай гасціннасці і шчодрасці. Нярэдка нават бедныя гаспадары стараліся, каб іх вяселле не ўступала вяселлям у найлепшых гаспадароў. У сувязі з гэтым бедныя сяляне не раз вельмі моцна запазычаліся ў мясцовых багацейшых гаспадароў і пасля на працягу цэлых гадоў сплачвалі з працэнтам даўгі або адраблялі ўсёй сям'ёй багацеям на іх полі ці лузе.

Аб характары вясельнай бяседы прыгожа выказваецца жыхарка вёскі Бендзюга, Наталля Міруць: „Пытаеш пра весельны почастунок калісь. Ой, бывало па-рознаму. Вэльмі часто былі такіе людзі, што ведаючы аб тым, што пойдут у нідзелю на васеле, то ўжэ ад пятніцы нічога не елі, каб, значыт, даром нажэрціся на тым васелі. То відомо, што такі госць, які, ні тут кажучы, бы свіня, кідаўся на васельнэ едзэне. А былі і такіе, што за свае грошы то цэлы рок нават чаркі не выпіў, а як пападаў на васеле, то напіваўся, як той паршук. А і гаспадары то таксамо былі розны. Здараласё, што гатовілі такіе вырабы з мяса, што іх і сабака не хацеў есці. О, такого гаспадара то ужэ лаелі, чаўплі на яго, як на сабаку і навет маладым добраго не жычылі, хоць можэ воны Богу душой не былі вінаваты. Гэто ж бацькі свіне, а не дзеці“.

**А. Баршчэўскі**

### АД СМЕХУ — ЛЕПШАЯ КРОЎ

Дагэтуль не было яснай, пераконваючай інтэрпрэтацыі смеху — смеху шчырага, натуральнага, які ажыўляе 56 мышцаў твару.

Ужо нованароджаны ўмее смяяцца. Можа таму, што ўжо ў часе знаходжання ў лоне маці ен чуў смех маці, бацькі, братоў, сяброў. Такім чынам, яго смех — гэта ўмоўны рэфлекс. Але гэтакае тлумачэнне не задавальняе нас. Мы б хацелі лепш зразумець механізм узнікнення смеху. Мы хацелі б таксама даведацца пра карысны ўплыў яго на здароўе, даўжыню жыцця, на паказчык інтэлігенцыі, здольнасць тварыць, на каханне, жаданні і сумленнасць.

Найбольш каштоўны смех — гэта смех спантанны. Мышцы цела (за выключэннем грудной клеткі) напружваюцца, а ў крыві адразу ж павышаецца ўзровень адрэналіну, які стымулюе працу розуму, ціск крыві, біццё сэрца. Такім чынам, можна было б сказаць, што смех паляпшае кроў.

Вучоныя шукалі ў мазгу цэнтр, які быў бы адказны за тое, што мы смяемся. Сёння ведаем амаль напэўна, што знаходзіцца ён там, дзе і цэнтр голаду, прагі, біцця сэрца і здольнасці дыхання. Адсюль яго станоўчы ўплыў на розныя органы.

Смех выступае ў найбольш прыемныя моманты, як, напрыклад, у час перамогі, мілай неспадзеўкі, казытання, слухання ці апавядання смешных гісторый, у вясёлай кампаніі.

Сардэчны смех не толькі рэдукуе агрэсіўнасць, але яднае людзей.




### БУЛЬБЯНЫ РУЛЕТ З ЯЙКАМ

На 10 бульбін трэба ўзяць 1 сталовую лыжку тлушчу, 1—2 цыбуліны, 2 чайныя лыжачкі мукі, 2 лыжачкі цёртай булкі, 2 яйкі, 1 шклянку соусу, соль.

Звараную ў лупіне і ababраную бульбу прапусціць праз мясарубку. Дадаць муку і перамяшаць. Падрыхтаваць фарш з крутога яйка, дробна пасечанага і змешанага з падсмажанай цыбуляй. На бульбяную масу палажыць двухсантыметравы пласт фаршу, пасля чаго загарнуць рулет на змазанай тлушчам бляшцы ці патэльні. Рулет змазаць збітым яйкам, пасыпаць цёртай булкай, спырснуць тлушчам, пракалоць у двух--трох месцах і пячы ў духоўцы, пакуль не зробіцца прыгожая скарынка. Гатовы рулет парэзаць і падаць з соусам: смятанным, цыбульным або грыбным.

Грыбны соус. На 3 шклянкі адвару (з 30 г сушаных грыбоў) трэба ўзяць 2 сталовыя лыжкі мукі, 1 цыбуліну, 3 сталовыя лыжкі масла, соль. Муку падсмажваем, разводзім гарачым грыбным адварам. Варым мінут 20. Цыбулю падсмажваем з маслам, разам з пасечанымі варанымі грыбамі кладзем у соус, солім і кіпяцім.

**Гаспадыня**

## СОННІК

38

**Жарабец** — здабытае адвагай шчасце.
**Жароўня** — нячыстыя задумы.
**Жарт** — прыемныя запросіны; строіць — вясёлыя гульні.
**Жаць** — дарагавізна.
**Жвір** — знішчэнне.
**Жмурыць** вочы — непрыемнае палажэнне.
**Жніво** — хуткае здзяйсненне мараў.
**Жолаб** — дарэмныя намаганні; поўны — карысць, даход; пусты — табе не аддадуць пазыкі.
**Жонка** — радасць; з дзіцём на руках — клопаты, праблемы.
**Жук** — радасць адначасова са стратай.
**Журавіны** — горкае расчараванне.
**Жураўлі** — няверныя сябры; ляцяць — добрыя звесткі; курлыкаюць — радасць.
**Жывёлы** — шчасце і багацце; лашчыць — няпэўны даход; гавораць — апярэдзяць цябе іншыя; карміць — задавальненне, дабрабыт; чучалы жывёлаў — дарэмна непакоішся; дзікія — цяжкасці; свойскія — дастатак.
**Жывіца** (смала) — назойлівы чалавек у хаце.
**Жывот** — часовыя цяжкасці, непрыемнасці; вялікі, тлусты — вялікія даходы; малы, худы — неспакой.
**Жылы** — вялікі гнеў.
**Жыта** — дабрабыт; жытняя гарэлка — будзеш моцны.
**Жыўцом** пахаваны — твая чэсць у небяспецы, спалены — перашкоды ў справах.

З

**Заалагічны** сад (зоо) — ты марыш пра падарожжы.
**Забава** (танцы) — удача ў справах; удзельнічаць у ёй — шчаслівыя часы.
**Забастоўка** — зменлівыя часы.
**Забіваць** — прыгоды.

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Духавы аркестр прафесіянальных школ у Лапах. Летам ён выступіў на ўрачыстым замуроўванні Акту пабудовы новай школы ў Нарве. Фота Я. Чэрнякевіч.

Іван Вярыга

## СЁСТРЫ

Такой страшэннай буры не бачыў на сваім вяку стары лес. Яна наляцела знянацку і пачала крышыць дрэвы, ажно зямля ходарам захадзіла.

Бура выхвалялася: „Во якая я магутная! Магу ўвесь лес дашчэнту знішчыць!“

Лес трымаўся, як мог. Толькі асіны пакорліва схілялі верхавіны і трэсліся ад страху. Бура адным штуршком валіла іх на зямлю.

Паміж асін раслі чатыры сасны, чатыры сястры-прыгажуні. Жылі яны заўсёды ў згодзе і ладзе і ў час небяспекі сталі адна за адну.

Калі бура дабралася да іх і пачала разгойдваць, каб вывернуць карэнні, яны моцна прытуліліся верхавінамі і сталі падтрымліваць адна адну.

Бура адступіла на крок, прыціхла, а пасля затрэслася ад гневу: „Дык вось да чаго вы дадумаліся! Ды я вас выверну зараз усіх разам!“

Але вырваць адразу чатыры сасны бура не змагла: не хапіла сілы. І тады яна накінулася на суседнія дрэвы, а пасля, знянацку, зноў наляцела на сясцёр, але тыя былі напагатове.

Знясіленая, бура павярнула ўбок і пагразіла сёстрам: „Я яшчэ да вас дабяруся!“

Праз колькі год яна зноў з'явілася тут, але сёстры ўжо зусім не баяліся яе. Яны падраслі, падужэлі і так перапляліся верхавінамі, што нельга было пазнаць, дзе чыя галінка, дзе чыя шышка.

Бура кідалася на іх то з аднаго, то з другога боку і нарэшце сарамліва пасунулася далей.

З кожным годам усё дужэлі, разрасталіся сосны-сёстры. І бура мінала іх: баялася, каб зноў не абняславіцца.

Шмат каму прыходзілася ў спёку адпачываць у засені іх або ў непагадзь хавацца ад дажджу.

Адны дзівіліся: „Куды ні кінь вокам — адзін буралом. Як жа гэтыя дрэвы ўцалелі?“

А тыя, хто ведаў, гаварылі з захапленнем: „Вось гэта сосны! Сапраўдныя сёстры!“

Ларыса Вярыга

## МАЛЮНАК ДЛЯ ВЫСТАЎКІ

Сяргейка вярнуўся са школы заклапочаны. Расклаў на стале свае малюнкі і задумаўся. Заўтра адкрываецца выстаўка, і настаўніца сказала прынесці самы лепшы малюнак. „А які — самы лепшы? — думае Сяргейка. — Малюнкаў шмат, паспрабуй выберы. Вось прыйдзе з працы тата, можа, ён параіць“, — разважае хлопчык і садзіцца за ўрокі.

Калі скончыў, тата быў ужо дома.

— Дык ты кажаш, выстаўка ў вас будзе? Гэта справа неблагая. Хадзем паглядзім твае малюнкі.

У другім пакоі каля стала з Сяргейкавымі малюнкамі яны ўбачылі малую Свету з алоўкамі ў руцэ.

— Што ты тут робіш? — кінуўся на яе Сяргейка. А калі ўбачыў, што сястрычка нешта дамалёўвае на яго малюнку, аж ускрыкнуў:

— Ну вось, тата, ты паглядзі!

На Сяргейкавым малюнку маракі ішлі ў атаку. А Света ўсё сапсавала. Побач з параненым мараком яна намалявала... санітарку, якая даставала бінт з сумкі.

— Ты што нарабіла? — закрычаў на сястру Сяргейка.

Света трымала ў руках чырвоны аловак і ледзь не плакала:

— Я, я толькі хацела... Тут усё так страшна, кроў, людзі паміраюць. Іх жа ратаваць трэба...

— Бач ты, ратавальніца знайшлася!..

— А па-мойму, зусім нядрэнна атрымалася, — сказаў тата, — мне вельмі падабаецца.

— Табе падабаецца? — разгубіўся хлопчык і, глянуўшы на дзве буйныя слязіны на Свеціных шчоках, палагаднеў:

— Ну добра, няхай будзе так. Яго я і занясу.

Рыгор Барадулін

## У КАГО ЯКІ, ЯКАЯ?

Спрэчку мелі хлапчукі,
У каго з іх кот які.

Кот ваш — непрабудна шэры,
Значыць, шэра і ў кватэры.

Чорны кот — зеленавокі.
З ім забудзешся на ўрокі.
Чорны хвост
Тырчыць, што кнот,
Ім „калы“ вяшчуе кот.
З белым іншыя пакуты —
Двойкай
Хвост яго загнуты.

Маеш рыжага ката,
Светла ў хаце —
Любата!
З ім пакоі ўсе ў агні.
Хоць пажарнікам звані!

Рыжаму — сваяк
Руды.
Мець яго —
Не знаць бяды.
Кот руды
Надзвычай зоркі —
Бачыць загадзя пяцёркі.
І вучыць не трэба многа.
Трэба мець ката рудога!

Не дакажуць хлапчукі,
Самы лепш
Кот які.

На наступны перапынак
Спрэчка збегла на дзяўчынак.
Тут пытанне
Узнікае,
Кошка
У каго
Якая.
Так дыскусія
У класе
Доўгая распачалася.

Галіна Каржанеўская

## ЛІСТЫ І ПТУШКІ

Лісты і птушкі —
Блізкая радня.
Праклюнуўся лісток,
Бы птушаня.
Шчабеча летні лісцік
Дзень пры дні.
Лунае ліст асенні
Ў вышыні...
Але ніколі
З аніякіх дрэў
Ніводзін ліст
У клетцы не сядзеў.

## КАКТУС

На падаконніку у нас
Рос кактус,
рос паволі.
Іголкі вострыя не раз
Маю дачку калолі.

Трасла яна балючай ручкай:
— У, нехарошыя калючкі!

Але аднойчы раніцой
Свавольніца малая
Мяне заве, гукае:
— Зірні хутчэй
на кактус свой!

Гляджу: на кактусе падрад
Паселі пяць кактусянят.
Ды ўсе яны, як мама,
З калючкамі таксама.

# У НАШАЙ ГРАМАДЦЫ

**Падручнік беларускай мовы для пятага класа**
**Аўтары: Лідзія Гайдук — Мікалай Гайдук .**

Якуб Колас

## У СТАРЫХ ДУБАХ

Цэлы гай старасвецкіх дубоў раскінуўся на беразе Нёмана.

Такіх дубоў цяпер рэдка ўбачыш. Іх не чапіла рука людская, толькі доўгія часы палажылі свой след — пячаць глыбокай старасці.

І многа ўсякіх змен часу бачылі гэтыя нямыя сведкі прошласці! Жыццё многіх людскіх пакаленняў прайшло перад імі : праходзіць, бы тыя хвалі Нёмана, што пакручастым змеем абвівае тут іх сялібу, высокі, роўны груд, а яны ўсё стаяць, спакойныя, важныя, і жывуць сваім асобным жыццём. Праходзяць дні, ідуць сваёю чарадою зімы і леты з іх халадамі і спякотамі, з іх бурамі і навальніцамі, а яны спакойныя, як чалавек, які ўсё перавёдаў на свеце, усё перажыў і нічога новага не чакае ад жыцця, апроч смерці. Зваленыя ж на дол тоўстыя камлі з абсмаленымі знізу жараламі іх таварышаў напаміналі жывым пра апошнюю іх долю.

У леце пачыналася ўжо тая ледзь значная змена, той паварот часу, калі жыццё прыроды ідзе на спад. Скошаны луг і паскладаныя курганамі стагі, парыжэлыя ад дажджоў і сонца, ужо гаварылі аб гэтым паміранні. Буслы збіраліся ў чароды і доўга стаялі на грудах або ляніва аглядалі лагчыны. Але было прыкметна, што не на пажытак пазбіраліся яны сюды, а для нейкай іншай справы. Пастаяўшы, павольна, адзін за адным, уздымаліся яны ўгору, кружыліся там, і кожны круг падымаў іх усё вышэй і вышэй. Там яны спляталіся ў адну фігуру, у адзін шырокі круг і, не махаючы крыллямі, плаўна і згодна, як па камандзе, насіліся ў неаглядным прасторы сініх нябёсаў...

Асірацелыя старыя дубы ў чорных шапках бусліных гнёздаў спакойна стаялі, не варушачы ніводным лістам, і купалі ў сонцы свае адвечныя лапы

На скошаным лузе, недалёка ад дубоў, пасвіліся статкі. Там і сям сядзелі пастушкі. У кожным іх гуртку былі свае інтарэсы, свае забаўкі і гутаркі.

Сонца даўно ўжо звярнула з поўдня, але свяціла яшчэ горача. У паветры было ціха, толькі звон летнікаў зліваўся ў адну доўгую-доўгую аднатонную песню, і, здавалася, прырода была закалыхана гэтым сумным звонам. Маленькія камарыкі-таўкунчыкі кучкамі гулялі на сонцы, як бы чыясьці нявідная рука трэсла ў паветры сетачку.

— Чаго яны таўкуцца тут? — спытаў Грышка свайго таварыша Базыля і махнуў рукою па кучцы камарыкаў.

— Гуляюць, — адказаў Базыль. — Ты думаеш, ім не хочацца пагуляць? Цяпер іх час, і гуляюць.

Базыль і Грышка — найлепшыя дружбакі. Даўно ўжо цягнецца іх дружба — як запамятаюць. Дзве зімы ў школе сядзелі на адной лаўцы і трэцяе лета пасуць разам кароўкі. Калі катораму маці дасць у торбачку сала, то гэтае сала разразалі напалам і пяклі яго на ражэнчыках. А смачнае сала, спечанае над агнём у полі! Прыгнаўшы з раніцы, хадзілі разам лавіць рыбу і купацца. І ні з кім не злучаліся і, апроч свае кампаніі, другой не хацелі.

Палягуць часам хлопцы пад дубам. Грышка ляжа на спіну і колькі мінут моўчкі ўглядаецца на дуб, пад якім ляжыць.

— Як ты думаеш, Базыль: ці ёсць на свеце такі чалавек, які б панёс гэты дуб?

Базыль акінуў вокам дуб і, крыху падумаўшы, казаў:

— А пэўна ёсць.

І тут жа расказваў свайму сябру здарэнне з якім-небудзь асілкам. Так, адзін селянін (Базыль нават назваў яго прозвішча) паехаў па хвою ў княжацкі лес. Ссёк ён такую тоўстую хвою, што і два чалавекі не абнялі б яе. Узваліў на воз і паганяе каня. Конь — ані з месца! А якраз насунуўся ляснік. „Стой жа, — думае ён, — нідзе ты не дзенешся: не ўцячэш з гэтай хвояй", — і сам пазірае, што будзе далей. Чалавек гэты, нічога не гаворачы, выпраг каня, прывязаў яго да канца калоды і сказаўшы: „Няхай жа будзе брыдка каню", — узяўся за аглоблі і пацягнуў калоду.

Хлопцы сціхлі і задумаліся.

Было тут, у дубах, адно месца, дзе Базыль любіў сядзець, пазіраць і думаць.

Там, пад абрывістым берагам Нёмана, стаяў стары, прысадзісты тоўсты дуб. Ад доўгіх часоў бераг падмываўся вадою, паволі асоўваўся і агаляў тоўстыя карэнні старога дуба. Сам гэты дуб крыху пахіліўся набок, а аголеныя і працягнуты над вадою яго корань здаваўся нагою, і выходзіла здалёк так, што дуб збіраўся перабрысці Нёман. Сеўшы на гэтым корані, Базыль пазіраў, як беглі дробныя хвалі, як звівалася ў вадзе доўгая раска. вада то ўздымала яе, то апускала, то раскідала ва ўсе бакі і гуляла ёю, як вецер дымам.

Каля самага берага стаяў у вадзе голы лазовы ражон. Ён тое і рабіў, што хуценька ківаўся пад напорам вады. І ніколі не меў спачыну гэты ражон: і ўдзень, і ўночы ківаўся ён. Хіба можа зімою, як марозы скуюць лёдам ваду, адпачне гэты пахілак-ражон.

**Заканчэнне ў наступным нумары**

# Вучнёўская творчасць

**НЕРАЗУМНАЯ СПРЭЧКА**

**КАЗКА**

Малпка і папугай пачалі раптам неразумную спрэчку. А спрэчка была за прыгажосць.

Малпка кажа:

— Прыгажэй за мяне няма нікога ў свеце!

А папугай ёй у адказ.

— Лепшай птушкі за мяне няма ва ўсім свеце!

А па дарозе бег Мішка Касалапы. Ён пытаецца ў іх:

— Аб чым спрачаецеся, сябры?

Малпка і папугай крычаць яму ў адказ:

— Мы спрачаемся, хто з нас прыгажэйшы!

Мішка гучна засмяяўся:

— Не буду я спрачацца з вамі, бо лепшы розум, чым прыгажосць.

**Вольга Ваўчок, 6 клас, г. Мінск, член клуба „Дружба-не-разлій-вадой"**

# ПАЗНАЁМІМСЯ

— ✲ —

СССР, Тульская абл., Одоевский район, с/х Рылёво, Данилиной Оле. 12 год.

— ✲ —

СССР, 169900, г. Воркута, Коми АССР, ул. Б-Пищевиков, д. 20, кв. 15. Завьяловой Лене. 7 клас.

— ✲ —

СССР, 346503, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Петрашевского, 1 „в"/12. Юрьевой Наташе. 14 год.

— ✲ —

СССР, 344080, г. Ростов-на-Дону, ул. Российская, 28 а, кв. 74. Головатенко Андрею.

— ✲ —

СССР, 346554, Ростовская обл. г. Шахты, ул. Ленина, 13, кв. 30. Урянской Наде. 6 клас.

— ✲ —

СССР, 344056, г. Ростов-на-Дону, пос. Чкалова-56, пер. Днепровский, 21 а. Самсоновой Ирине.

— ✲ —

СССР, 346514, г. Шахты, Ростовской обл., ул. М.Ю.Д., дом 28. Вахтиной Олесе.

— ✲ —

СССР, 346514, г. Шахты, ул. Балтийская, 62-2. Изотовой Наташе. 5 клас.

— ✲ —

СССР, 346514, г. Шахты, Ростовской обл., ул. Перова, 31, кв. 3. Старцевой Оле. 6 клас.

— ✲ —

СССР, 347600, г. Сальск, Ростовской обл., ул. Горького, 18 а. Анфоньева Марина. 8 клас.

— ✲ —

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 12, кв. 59. Паліна Саладоўчанка. 3 клас.

— ✲ —

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 96, кв. 34. Каця Аўсяннікава. 3 клас.

— ✲ —

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 3, кв. 35. Саша Селязнёў. 4 клас.

— ✲ —

БССР, 220036, г. Мінск-36, пер. Р. Люксембург, 5, кв. 6. Валік Гарачун. 5 клас.

— ✲ —

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 13, кв. 3. Іра Славіна. 8 клас.

# Пішуць школьнікі

*ДАРАГАЯ „ЗОРКА"*



*Пішу я да цябе першы раз, чытаю цябе з радасцю заўсёды, калі ты толькі да нас прыходзіш, у наш клуб „Дружба-не-разлій-вадой". Прыходзь да нас часцей, „Зорка". У чэрвені я з мамай, татам і сваёй сястрой Ірай адпачывалі на Чорным моры. Спачатку мы ляцелі на самалёце, а далей да Крыму ехалі аўтобусам. Надвор'е было цёплае. Мы кожны дзень купаліся ў моры. Адзін дзень мы хадзілі на гару Алчак, а потым пайшлі есці марожанае ў кавярню „Алчак".*

*У Крыме адпачываюць тысячы людзей. Там вельмі прыгожа.*

**Света Шырачэнка, вучаніца 5 класа з Мінска.**

# ЗАГАДКА

Гэту кветку ва ўсім свеце
Паважаюць надта дзеці.
Хлебаробы ж ёй на полі
Не даюць жыцця і волі.
На ўвесь голас зневажаюць —
Пустазеллем называюць.
Радасць, любасць на душы
Адчуваюць малышы,
Як убачаць шчэ здалёк
Светла-сіні...

**Н. Парукаў**

**Ад рэдакцыі:** Хто здагадаўся, што гэта за кветка, хай намалюе яе вельмі прыгожа і прышле ў „Зорку". За найлепшы малюнак — беларускую кніжку.

**А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А**



**Знайдзіце для хлопчыка дарогу сярод лужын, каб ён мог прайсці, не замачыўшы ног.**



Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-959 Białystok ul. Wesołowskiego 1

## СЛУХАЕМ І СПЯВАЕМ

Змяшчаем словы песні, якую вы пачуеце ў беларускай перадачы па Беластоцкім радыё ў суботу 20 верасня а 18-й гадзіне.

### ПАГНЕВАЛАСЯ ЖОНКА НА МУЖА
(Беларуская народная песня)

**Пагневалася жонка на мужа,**
**Залезла на печку, сказала: нядужа.**
**Міленькі ходзіць, ручанькі ломіць,**
**Міла на печы ляжыць, не гаворыць.**

**— Уставай, міла мая, прынёс табе піва.**
**— Дай ты, мілы, спакой, бо я ледзь жыва.**

**Міленькі ходзіць...**

**— Уставай, мілая мая, прынёс табе мёду.**
**— Дай ты, мілы, спакой, я не піла з роду.**
**— Уставай, мілая, я прынёс гарэлкі.**
**— Дай ты, мілы, спакой, шукай сабе дзеўкі.**

**Міленькі ходзіць...**

**— Уставай, мілая, я прынёс дубінку,**
**Я прынёс дубінку, ды на тваю спінку.**

**Міленька ўстала, як бы не ляжала,**
**Абняла мілога і пацалавала.**
**— Дзякуй табе, мілы, што ты дагадаўся,**
**На маю хваробу спосаб устараўся.**
**Бо мне не балела ні цела, ні косці,**
**Толькі я ляжала з вялікае злосці.**



На ўсялякі выпадак.

## НІЎКА



Эвалюцыя катрынкі.

### ПЛЮСЫ І МІНУСЫ

— Як вам падабаецца ваша новая кватэра?

— Нічога. У яе ёсць як станоўчыя, так і адмоўныя бакі... Злева ад нас знаходзіцца сырны завод, а справа — скураны. Гэта, вядома, вялікі мінус.

— А якія ж плюсы?

— Затое мы заўсёды ведаем напрамак ветру...

### УСМЕШКА

Сябрукі гутараць аб суседзях:

— Зараз у гэтай кватэры жывуць дзіўныя людзі. З таго часу, як яны купілі дыван, усіх, хто прыходзіць, разуваюць яшчэ ля парога.

— Мабыць, дарагі шкадуюць...

— Дык яны ж павесілі яго на сцяне.

### ГУМАР З БАРАДОЙ

#### ПАДРЫХТАВАЎ...

Фельдфебель выстраіў салдат і пачаў:

— Я ўжо казаў вам, і яшчэ раз паўтараю: спытае цар, як жывецца, дык вы нічога лішняга не думайце, каб не збіцца, а адразу выпаліце: „Міласцю царскай!“ Другім пытаннем абавязкова будзе, ці гатова доблеснае воінства перамагчы ворагаў нашай светлай царскай імперыі, дык вы гаркніце так, каб за пяць вёрст было чуваць: „Знішчым да апошняга, гасудар!“

Вось і цар ужо падыходзіць са сваёй світай. Нешта спытаў генерала, а далей:

— Хто там чухаецца ў другой шарэнзе? Грызуць вас паразіты ў казармах?

— Міласцю царскай! — зараўлі як адзін.

Магчыма, не дачуў самадзержац, бо зноў пытае:

— А ці паважаеце сваё высокае начальства?

— Знішчым да аднаго, гасудар!..



Ведаў, што падае, але стараўся падаць, як Пізанская вежа.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Тата, а чаму гэта наш вяпрук, калі есць, заплюшчвае вочы? — спытаў сынок у бацькі.

— Ды, мабыць, яму сорамна есці белыя буханкі, якія мама яму з магазіна прыносіць, — адказаў бацька.

*

— Калі раніцай я чую тук будзільніка, мне здаецца, што ў мяне выстралілі.

— І ты ўскакваеш?

— Не, ляжу як забіты.

*

У шатландца згарэў дом. Следчы западозрыў, што шатландзец падпаліў яго сам з мэтай атрымання страхоўкі. Пракурор:

— На чым заснаваны вашы падазрэнні?

— Бачыце, у спісак знішчаных пажарам рэчаў гаспадар уключыў дзесяць літраў бензіну і пачак запалак...

### БАЯЗЛІВЕЦ

Ён беражэцца ўсім уменнем,
Абходзіць лоўка ўсе напасці:
Пянькі, калдобіны, камені —
Каб — не дай Бог — дзе не ўпасці.
Ён умудроны, асцярожны,
Не хоча ў чымсьці пралічыцца.
Ён вывярае ўздых свой кожны —
Як смерці, рызыкі баіцца.
Аднак, які ён ні разважны,
Які ні ўмелы, асцярожны,
А з-за таго, што не адважны, —
Узняцца вышай ўсё ж не можа.

**Міхась Стральчэня**

### З „Весніка Задрыпоніі“

#### ПАДЗЕІ

У першы ж дзень сваёй вытворчай дзейнасці малады спецыяліст Б. Брухевіч сутыкнуўся з рэчаіснасцю.

Пацярпеўшага ў цяжкім стане даставілі ў бальніцу.

#### БАНТОН

Калі вам раптам захацелася на каго-небудзь падзьмуць, дык пастарайцеся зрабіць гэта тактычна. Дзьміце разам з парывам цёплага ветру.





— Тата смажыў мне яечню...



Без слоў.

## Курёзы

### БЕДНЫ НАФТАВЫ КАРОЛЬ

Нябожчык нафтавы кароль Злучаных Штатаў Поль Геці ніколі не запярэчваў, калі яго велічалі „містэрам мільярдэрам“. А вось яго сын Гордан цяпер пагражае судом кожнаму, хто пасмее назваць яго мільярдэрам, ці будзе цвердзіць, што ён ацэньваецца, як там заведзена гаварыць, у чатыры мільярды долараў.

Каб унесці поўную яснасць у гэту справу, Гордан Геці паведаміў рэдакцыі газеты „Інтэрнешнл трыбюн“, што ўся яго маёмасць — толькі трыццаць мільёнаў долараў — не больш! — бо якраз з такой сумы ён сплачвае дзяржаўныя падаткі.

Думаем, калі б была надзея, што яму павераць, дык „бедны“ нашчадак „містэра мільярдэра“ і да гэтых трыццаці мільёнаў на словах адхрысціўся б. Бо ўся яго „скромнасць“ тлумачыцца толькі адным: жаданнем абкруціць навокал пальца фінансавых інспектараў, каб абысціся як найменшымі падаткамі.




Як хутка знаходзяць супольную мову тыя, хто не можа варухнуць языком!